№№117–118
(3656–3657)

31 ліпеня 2012 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

www.nv-online.info

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*

Якуб КОЛАС

**Да ўвагі!**

*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

УРАДЖАЙ-2012

## Будзем з хлебам!

Па інфармацыі на раніцу ўчарашняга дня, у краіне збожжавыя былі абмалочаны ледзь не з паловы плошчаў. На даачыстку паступілі 3.628.000 тон зерня.

Сярэдняя ўраджайнасць па краіне — 38,3 цэнтнера з гектара. Гэта вельмі і вельмі нядрэнна.

ПРЭЦЭДЭНТ

## Судзяць за... размалёўкі

Сёння, 31 жніўня, у Аршанскім гарадскім судзе павінен пачацца разгляд адміністрацыйнай справы грамадскай актывісткі Яны Лясеўскай. Яе вінавацяць у распаўсюджванні твораў, якія прапагандуюць культ гвалту і жорсткасці.

Такімі матэрыяламі міліцыянеры палічылі дзіцячыя размалёўкі «Мой тата — міліцыянер. Што ён робіць на працы?».

Дарэчы, адзіная такая размалёўка была выяўлена ў Яніны дома падчас ператрусу ў пачатку лютага. Тады праваахоўнікі шукалі друкаваныя матэрыялы, якія рассылаліся ў Аршанскі гарадскі і раённы аддзелы міліцыі ад імя кампаніі «Наш Дом». У іх сцвярджалася, што самі супрацоўнікі міліцыі парушаюць заканадаўства, а таксама дэманструюць нізкі ўзровень культуры. Падчас ператрусу міліцыянты нічога не знайшлі, а пазней нават прынеслі прабачэнні.

ГУЧНАЯ СПРАВА

## Хадайніцтва адхілена

Крымінальная справа ў дачыненні да былога начальніка сакратарыята Савета Рэспублікі Глеба Бядрыцкага накіравана ў Вярхоўны суд для вызначэння падсуднасці.

Нагадаем, Бядрыцкі, які быў затрыманы праваахоўнымі органамі ў канцы кастрычніка мінулага года, абвінавачваецца ў крадзяжы шляхам злоўжывання службовымі паўнамоцтвамі і ў злоўжыванні службовым становішчам. Накіраванне матэрыялаў справы ў суд азначае, што хадайніцтва Бядрыцкага на імя кіраўніка дзяржавы аб вызваленні ад крымінальнай адказнасці адхілена.

ПА ЧУТКАХ І ...

## “Каму хочацца пахаваць дзяржаўны ансамбль “Песняры”?

29 ліпеня на сайце ансамбля “Белорусские Песняры” www.pesniary-belorusskie.ru з’явілася неафіцыйная інфармацыя пра тое, што, згодна з рашэннем беларускіх улад, ліквідуецца беларускі дзяржаўны ансамбль “Песняры” як штатная адзінка Міністэрства культуры.

Тэлефанаванне ў прэс-службу гэтага міністэрства дало наступны вынік: там паведамілі, што ніякага рашэння пра ліквідацыю калектыву няма, а БДА “Песняры” рыхтуецца да гастроляў, у рамках якіх павінны адбыцца канцэрты ў Польшчы і Крамлёўскім палацы з’ездаў. А ў сувязі з чуткамі параілі звярнуцца да дырэктара ансамбля Сяргея Маеўскага.

— Я сам пра гэта даведаўся сёння ўранку і мушу катэгарычна заявіць: ні пра якую ліквідацыю калектыву і гаворкі не вядзецца, — заявіў Сяргей Маеўскі. — Гэтыя чуткі прыйшлі з Расіі, і можна здагадацца, каму яны выгадныя. Нашы “Песняры” зараз у выдатнай форме, рыхтуюцца да новых канцэртаў і паездак.

Тым не менш чуткі пра далейшы лёс БДА “Песняры” ўсё ж маюць пад сабой пэўны грунт. Згодна з інфармацыяй, атрыманай рэдакцыяй “Народнай Волі” ў Крамлёўскім палацы з’ездаў, у лістападзе там сапраўды павінен адбыцца канцэрт “Песняроў”. Але не дзяржаўнага калектыву, а... “Белорусских Песняров”. Вядома нам і пра неафіцыйную сустрэчу удзельнікаў “Белорусских Песняров” з прадстаўніком беларускіх уладных структур, падчас якой таксама прагучала інфармацыя адносна нярадасных перспектыў БДА “Песняры”.

Сітуацыя насамрэч заблытаная. Варта нагадаць, што адносна нядаўна паміж гэтымі двума калектывамі было сімвалічна падпісана пагадненне аб ліквідацыі ўзаемных прэтэнзій, а таму інфармацыю аб ліквідацыі БДА “Песняры” можна ўспрымаць як спробу зноў распаліць канфлікт.

Цягам апошніх месяцаў у складзе БДА “Песняры” адбыліся як мінімум дзве ратацыі музыкантаў. Апошняе абнаўленне на сайце гэтага калектыву pesnyary.by датавана 18 ліпеня, калі для азнаямлення музыканты выставілі дэма-версіі трох новых песень. Час пакажа, ці будзе праца над імі даведзена да канца.

**Дзмітрый ПАДБЯРЭЗСКІ.**

ПРАЦЯГ ТЭМЫ

# Невінаватых — пакараць, вінаватых — узнагародзіць?

*Сваякі, сябры і калегі студэнта Інстытута журналістыкі Антона Сурапіна ўсе апошнія дні чакалі, што хлопец нарэшце выйдзе на волю. Аптымізм з’явіўся пасля абяцанняў кіраўніка дзяржавы пакараць вінаватых у справе “цацкавага дэсанта” на нарадзе з кіраўніцтвам Узброеных сіл і Памежнага камітэта. Але на момант здачы гэтага нумара ў друк студэнт-журналіст, які першым паведаміў на сайце пра інцыдэнт, заставаўся за кратамі, а ваенныя, якія “праваронілі” самалёт, — на сваіх пасадах.*



Нагадаем: раніцай 4 ліпеня, на наступны дзень пасля вайсковага парада з нагоды Дня незалежнасці Беларусі, шведскі лёгкаматорны самалёт перасёк беларускую мяжу і скінуў плюшавых мядзведзікаў з цыдулкамі-патрабаваннямі грамадзянскіх свабод. Адказнасць за палёт узяла на сябе шведская Studio Total. Пілоты Томас Мазэці і Хана Ліна Фрэй заявілі, што бесперашкодна даляцелі да беларускай сталіцы і павярнулі ў бок літоўскай мяжы толькі пасля таго, як пачулі запыты па-руску з грамадзянскага аэрапорта.

Афіцыйны Мінск доўгі час не пацвярджаў факт перасячэння мяжы шведскім самалётам, нягледзячы на паўтарагадзіннае відэа, якое выклалі ў інтэрнэце шведскія пілоты. Нашы ваенныя называлі відэа мантажом, а самі паведамленні ў незалежных СМІ — правакацыяй.

Тым часам следчыя затрымалі студэнта Інстытута журналістыкі Антона Сурапіна за размяшчэнне ў інтэрнеце фотаздымкаў, пацвярджаючых факт перасячэння беларускай мяжы шведскім лёгкаматорным самалётам. Акрамя таго, у ізалятары КДБ апынуўся рыэлтар Сяргей Башарымаў, які здаваў у арэнду кватэру грамадзянам Швецыі. І Сурапіна, і Барашымава падазраюць у пасобніцтве шведам. Абодвум, калі справа дойдзе да суда, пагражае зняволенне. І зусім не зразумела, чаму за інцыдэнт адказваюць людзі, якія ніякага дачынення да аховы мяжы не маюць.

...Зразумела, што бацькам Антона Сурапіна, якія жывуць у Слуцку, не да дыскусіі пра стан сістэмы супрацьпаветранай абароны. Маці Антона — Алена Сурапіна — кажа:

— Мы пакуль застанёмся ў Мінску. Дадому вырашылі не ехаць — чакаем, а раптам Антона выпусцяць. Адвакат нам нічога сказаць не можа, бо пад падпіскай. Мы самі нічога дабіцца таксама не можам. Я ніколі не была адданай верніцай, але цяпер хаджу ў царкву і малюся, бо ў такой сітуацыі і не ведаеш, што яшчэ можна рабіць. Канешне, мы адчуваем падтрымку звычайных людзей. Проста не чакалі такога! Нават мае аднакласнікі тэлефануюць і прапаноўваюць дапамогу. У каго машына, у каго яшчэ нешта. Кажуць: “Ты толькі скажы, што трэба — і ўсё будзе”. Аднакласнікі Антона, яго аднакурснікі — таксама. Я вось паглядзела, што пішуць у інтэрнэце. Дык, канешне, прыемна, што людзі так усё ўспрынялі і так заступаюцца за Антона. Але ад таго, што адбылося, мы дагэтуль у шоку. Самай вялікай праблемай было, як сказаць бабулі і дзядулю Антона, што яго кінулі за краты. Ён жа нічога не зрабіў злачыннага. Таму спадзяёмся, што нарэшце разбяруцца, і Антон выйдзе на волю.

Пакуль жа гучаць заклікі міжнароднай грамадскасці неадкладна вызваліць Антона Сурапіна. Беларуская асацыяцыя журналістаў таксама заклікала ўлады *“спыніць практыку пераследу журналістаў, якія выконваюць свае прафесійныя абавязкі”.* Але на той час, калі вярстаўся нумар, нічога не змянілася — кадравых рашэнняў не прагучала, Антона Сурапіна з “амерыканкі” не выпусцілі...

Дай Бог, каб цяпер, калі вы трымаеце ў руках “Народную Волю”, Антон Сурапін быў на свабодзе.

**Любоў ЛУНЁВА.**

ГАЗЕТА—ЧЫТАЧЫ

## Падпісацца на “Народную Волю” можна ў любы дзень...

Непрыкметна праляціць жнівень, і ў гарады вернуцца дачнікі, з адпачынкаў — рабочыя, служачыя, з канікулаў — студэнты...

Каб у верасні атрымліваць дахаты “Народную Волю”, Вы можаце ў любы дзень зайсці на пошту і аформіць падпіску. Кошт на месяц — усяго 19.000 рублёў.

**Вы — з “Народнай Воляй”, “Народная Воля” — з Вамі!**

ДЫПКУР’ЕР

## Былы пасол Сірыі ў Беларусі пацвердзіў пераход на бок апазіцыі

Фарук Таха паведаміў пра гэта ў інтэрв’ю тэлеканалу Al Jazeera.

Дыпламат сцвярджае, што сем месяцаў таму ён пачаў выказваць нязгоду з метадамі падаўлення пратэстаў, якія прадпрымае рэжым Башара Асада. Гэта стала адной з прычын, па якой яго вырашылі адклікаць з Беларусі.

«Я мог абвясціць пра свае ўцёкі толькі цяпер, паколькі рэжым ужывае жорсткія меры супраць іншадумцаў як унутры краіны, так і за яе межамі», — сказаў былы кіраўнік дыпламатычнай місіі Сірыі ў Мінску.

Ён таксама заявіў, што яго задачай была падтрымка рэвалюцыі, а не публічныя заявы, але «сёння маўчанне з’яўляецца здрадай».

Фарук Таха працаваў у сірыйскім урадзе 44 гады, у тым ліку 26 гадоў — у якасці дыпламата.

ПАЛІТКУХНЯ

## З’езд АГП вылучыў 57 кандыдатаў у дэпутаты

Праўда, 15 верасня ў знак пратэсту супраць таго, як у нашай краіне праходзяць выбары, яны здымуць свае кандыдатуры.

“Спікеры” — менавіта так называюць у Аб’яднанай грамадзянскай партыі тых, хто будзе ўдзельнічаць у выбарчай кампаніі. Задача спікераў — не змагацца за дэпутацкі мандат, а данесці да выбаршчыкаў інфармацыю пра тое, што справядлівых, дэмакратычных, чэсных выбараў у краіне няма.

Сярод тых, хто пойдзе да людзей з гэтай місіяй, былы старшыня Нацыянальнага банка Станіслаў Багданкевіч, народная артыстка Беларусі Зінаіда Бандарэнка, былы міністр абароны Павел Казлоўскі, падпалкоўнік міліцыі ў адстаўцы Мікалай Казлоў, прафесар Георгій Лепін, кінарэжысёр Юрый Хашчавацкі ды іншыя.

Усе гэтыя людзі збяруцца разам яшчэ раз — 15 верасня — на другую сесію партыйнага з’езда і заявяць аб тым, што яны здымаюць свае кандыдатуры і не будуць вылучацца кандыдатамі ў дэпутаты.

РАЗЪЯСНЕНИЕ

**После публикации в минувшем номере материала «Конь в сенате», где был приведен известный исторический факт, когда римский император Калигула ввел в сенат своего коня, некоторые наши читатели высказали недоумение в связи с тем, что император Калигула был назван Гаем Юлием Цезарем. В этой связи разъясняем.**

**История знает двух Гай Юлиев Цезарей. Один — известный полководец и писатель, отличался многими экстравагантностями, но коня в сенат не вводил. А вот второй Гай Юлий Цезарь (он же — Калигула) жил на сто лет позже. Славы великого полководца он не снискал. Однако тоже вошел в историю.**

ОБРАЗОВАНИЕ

## Учеба на платном доступна только богачам?

*Стоимость обучения для первокурсников в центральных университетах страны доходит до нескольких тысяч долларов.*

Совсем скоро закончится вступительная кампания 2012 года. Несмотря на то, что конкурс на многие популярные специальности сейчас ниже, чем год назад, стоимость платного обучения неуклонно повышается. Многие центральные вузы уже обнародовали суммы, которые придется выложить первокурсникам.

Обучение на престижных специальностях Белорусского государственного университета информатики и радиоэлектроники обойдется примерно в 1300 долларов за год. Другой популярный технический вуз — Белорусский национальный технический университет — также задал высокую планку в сезоне 2012—2013 года — на уровне примерно 1,5 тысячи долларов. Один год в бывшем Нархозе стоит примерно 1300 долларов.

Стоит отметить, что с каждым курсом стоимость обучения растет. Четверокурсники БГУИР, например, готовятся к тому, чтобы выкладывать за год науки в альма матер до 2 тысяч долларов.

Белгосуниверситет, который считается самым престижным белорусским вузом, также опубликовал расценки на новый учебный год. Хотя, казалось, здесь ценам и расти уже некуда. Так, обучение на факультете международных отношений уже в прошлом году обходилось «дневникам» примерно в 1500 долларов. В этом году для некоторых оно будет стоить 14.950 тысяч рублей, или почти 2 тысячи долларов. Столько же стоит обучение по специальности «правоведение». Чуть дешевле «дизайн» — 14.750. Пока дешевле всего учиться на филолога. Стоимость годового обучения тут равна 10.700 тысячам рублей, или примерно 1300 долларам.

### Стоимость обучения на первом курсе в 2012—2013 году

**БГУ**

| Факультет | Стоимость (тыс.руб.) |
|---|---|
| Механико-математический факультет | 11.800 |
| Факультет прикладной математики и информатики | 12.400 |
| Факультет радиофизики и компьютерных технологий | От 11.800 до 12.400 (в зависимости от специальности) |
| Физический факультет | 11.800 |
| Физический факультет | 11.800 |
| Биологический факультет | 13.600 |
| Географический факультет | От 11.800 до 12.400 (в зависимости от специальности) |
| Экономический факультет | 14.500 |
| Исторический факультет | 11.800–12.400 (в зависимости от специальности) |
| Институт журналистики | 13.600–14.200 (в зависимости от специальности) |
| Факультет философии и социальных наук | 11.800–13.600 (в зависимости от специальности) |
| Филологический факультет | 10.700–14.750 (в зависимости от специальности) |
| Юридический факультет | 13.600–14.950 (в зависимости от специальности) |
| Факультет международных отношений | 14.500–14.950 (в зависимости от специальности) |
| Гуманитарный факультет | 10.700–14.750 (в зависимости от специальности) |

**БГУИР**

| Факультет | Стоимость обучения с 01.06.2012. (тыс.руб.) |
|---|---|
| **ФКП, ФРЭ** | 9.135.000 |
| **ФТК** | 9.480.000 |
| **ИЭФ** | 9.680.000 |
| **ФКСиС, ФИТУ** | 10.155.000 |

**БНТУ**

| Факультет | Стоимость (тыс.руб.) |
|---|---|
| Автотракторный факультет | 12.600–12.700 (в зависимости от специальности) |
| Факультет горного дела и инженерной экологии | 12.600 |
| Машиностроительный факультет | 12.600–12.700 (в зависимости от специальности) |
| Механико-технологический факультет | 12.600 |
| Факультет маркетинга, менеджмента, предпринимательства | 12.700 |
| Энергетический факультет | 12.700–12.800 (в зависимости от специальности) |
| Факультет информационных технологий и робототехники | 12.600, 12.800 (в зависимости от специальности) |
| Факультет технологий управления и гуманитаризации | 12.600–12.800 (в зависимости от специальности) |
| Инженерно-педагогический факультет | 12.600 |
| Факультет энергетического строительства | 12.600–12.700 (в зависимости от специальности) |
| Архитектурный факультет | 12.800 |
| Строительный факультет | 12.600–12.700 (в зависимости от специальности) |
| Приборостроительный факультет | 12.600–12.700 (в зависимости от специальности) |
| Факультет транспортных коммуникаций | 12.700 |
| Спортивно-технический факультет | 12.600 |

**БГЭУ**

| Группа специальностей | Стоимость обучения за 2012–2013 год (тыс. руб.) |
|---|---|
| 1-й курс (группа специальностей 1) | 11.358.600 |
| 1-й курс (группа специальностей 2) | 11.587.500 |

**Мария МАЛЕВИЧ.**



ЧУЛІ?

## Бенедыкт XVI прызначыў ...

Ганаровым папскім прэлатам прызначаны **ксёндз Андрэй Стэцкевіч** — генеральны вікарый Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі.

«Гэта прызначэнне робіцца Святым Айцом за асаблівыя заслугі перад царквой», — растлумачылі ў Рымска-каталіцкай царкве. Святары, якія атрымалі такі тытул, далучаюцца да бліжэйшага кола супрацоўнікаў пантыфіка і атрымліваюць прывілеі насіць асаблівую вопратку малінавага колеру.

Ксёндз Андрэй Стэцкевіч — доктар тэалогіі. З 1999 года — ганаровы капелан Папы, а з 6 чэрвеня гэтага года святар пачаў служыць ужо ў якасці генеральнага вікарыя Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі.

За час свайго святарскага служэння Стэцкевіч адбудаваў духоўную семінарыю ў Санкт-Пецярбургу, дзе выкладаў, кафедральны касцёл і курыю ў Маскве і пракатэдральны касцёл у Санкт-Пецярбургу і г.д. З’яўляўся выкладчыкам духоўнай семінарыі ў Санкт-Пецярбургу. Чытае спецкурсы ў семінарыі ў Пінску і ўніверсітэтах Мінска (у асноўным па біяэтыцы).

